

*Загадчыкам гусінай фермы з'яўляецца Міхась Радасюк.*


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 49 (875) ГОД XVII БЕЛАСТОК 3 СНЕЖНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

■ Галоўнае праўленне БГКТ шмат папрацавала ў напрамку арганізацыі харавых калектываў. І ёсць ужо вынікі. У Міхалове вялікі харавы калектыў працуе пад мастацкім кіраўніцтвам Эдварда Гойліка. У Беластоку вакальна-музычная эстрада гарадскога аддзела пад кіраўніцтвам Генрыка Крольчука ўжо дала першы канцэрт на коласаўскім урачыстым вечары ў памяшканні БГКТ. У Гайнаўцы рэактывавалася эстрада аддзела. Кіруе ёю Аляксандр Лукашук. Пад яго кіраўніцтвам паспяхова таксама праходзяць рэпетыцыі ў новым харавым калектыве ў Белавежы. Нядаўна ўтварыўся таксама харавы калектыў у вёсцы Дубяжына (Бельскі павет). Мастацкім кіраўніком яго з'яўляецца Міхась Артышэвіч. У стадыі арганізацыі харавы калектыў у вёсцы Дубічы Царкоўныя, што на Гайнаўшчыне.

■ У сакольскім і дуброўскім аддзелах у апошні час праведзена значная праца па заахвочванню людзей да ўдзелу ў конкурсе на беларускую песню, які арганізоўвае БГКТ. Ужо зрабілі заяўкі на ўдзел у конкурсе «Беларуская песня — 1973» у Гаркавічах 4 асобы, у Гуранах — 3, у Паўночным Востраве — 5, у Слоі — 4, у Кнышэвічах — 3, у Крапіўне — 3, і ў Хілімонах — 5 чалавек.

■ 5 лістапада член ГП БГКТ, намеснік дырэктара ЗУС Уладзімір Юзвюк у памяшканні ГП правёў сустрэчу з старшым пакаленнем і расказваў аб тым, калі і каму прыслугоўваюць рэнты і пенсіі і як іх трэба афармляць. Арганізаваў сустрэчу гарадскі аддзел БГКТ.

■ 15 лістапада прэзідыум ГП разгледзеў справу рацыянальнага выкарыстання на культурную дзейнасць дзяржаўнага бюджэту, прызначанага на гэты год.

■ 17 лістапада пленарнае пасяджэнне бельскага праўлення аддзела пад старшынствам Аляксея Карпюка (дырэктара беларускага ліцэя) было прысвечана заданням гуртка БГКТ у святле VII з'езду БГКТ. Былі абмеркаваны таксама справы харавых калектываў у Орлі і Дубяжыне. У той жа дзень удзельнікі пленума сакратар ГП Янка Зенюк і член прэзідыума ГП Сцяпан Трафімюк сустрэліся ў Дубяжыне з членамі хору і прысутнічалі на рэпетыцыі.

■ Кінаапаратурай ГП у Паўночным Востраве і ў Паўднёвым Востраве на Сакольшчыне былі паказаны савецкія ваенныя фільмы «Далеко на западе» і «Прерваная песня».

■ ГП мае інструктара на бельскі, гайнаўскі і сямяціцкі аддзелы для дапамогі тэатральным калектывам. Калі патрэбна дапамога, звяртайцеся па адрасу: Валя Андрэюк, Бельск Падляшскі, вул Жвіркі і Вігуры 8/10, тэл. 2197 (Павятовы дом культуры).

■ Па ініцыятыве гайнаўскага аддзела БГКТ 15 лістапада журналісты «Нівы» Аляксей Карпюк, Мікалай Гайдук, Ада Чэчуга і Міхась Хмялеўскі ў вёсках Ласінка, Кленікі, Чыжы і Камень выступілі з расказамі аб Савецкім Саюзе з нагоды 50-ай гадавіны СССР.

(мх)

## На радзіме ЯКУБА КОЛАСА

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*

Бадай, няма такога беларуса, які не знаў бы гэтых цудоўных радкоў, хвалюючых яго незалежна ад таго, колькі разоў не перачытваў бы ён іх.

Цяпер можаце сабе ўявіць, як мы. настаўнікі беларускай мовы з Беласточчыны, хваляваліся, калі даведаліся, што пабываем на радзіме Якуба Коласа, пабываем у тых мясцінах, якія апісаны ў славутай паэме «Новая зямля».

І вось мы даязджаем да Акінчыц, месца нараджэння аднаго з выдатнейшых творцаў беларускай нацыянальнай літаратуры і культуры — Якуба Коласа. І хаця стаіць спякота, мы гэтага не адчуваем — мы жывем будучым.

Заскрыпелі тармазы, і аўтобус у клубах пылу спыніўся. Мы ўсе ціха выходзім з аўтобуса. Перад намі хаціна, пра якую можна толькі вычытаць ці ўбачыць у дзіцячых казках. Каля хаціны група дзяцей. Зацікаўленыя і крыху ўстрывожаныя вочкі ўпарта глядзяць у наш бок і як бы пытаюць: «Чаго гэтыя чужыя цёткі і дзядзькі прыехалі да нас? На сцяне хаціны прымацавана мемарыяльная дошка, на якой напісана, што 4 лістапада 1882 года ў гэтай хаціне нарадзіўся Якуб Колас.

Далейшай часткай нашага падарожжа былі Мікалаеўшчына і Альбуць (Парэчча ў паэме «Новая зямля»). У Мікалаеўшчыне знаёмімся ўжо з сапраўднымі героямі бессмяротнай коласаўскай паэмы. Вось адзін з іх — Юзік шаляніца»! О, не, прабачце яго ўжо шаляніцай называць не выпадае. Гэта сапраўды незвычайны чалавек: літаратурны герой, з аднаго боку, і зусім чалавечая, зямная, блізкая і простая людзіна, з другога. Усё далейшае падарожжа па коласаўскіх мясцінах адбывалася ўжо з дзядзькам Юзікам (так яго тут усе называюць). Дзядзька Юзік вельмі красамоўна і зусім натуральна расказвае пра ўсё цікавячае нас, адказвае на нашы шматлікія пытанні і дэкламуе на памяць многія творы Коласа, усё паспявае.

(Працяг на стар. 5)

## Школа здароўя і гігіены



Саюз вясковай моладзі (ЗМВ) некалькі год таму назад пачаў арганізоўваць на вёсцы т. зв. школы здароўя. Суарганізатарамі іх амаль аўтаматычна сталі розныя арганізацыі, дзейнічаючыя на вёсцы. Адсюль, бадай, разнастайнасць удзельнікаў гэтай формы асветы: пачынаючы ад маладых, а заканчваючы на пенсіянерскім узросце.

Нядаўна распачаўся новы вучэбны год у Беластоцкім павеце. Мы папрасілі УЛАДЗІСЛАВА АНДЖЭЕЎСКАГА, намесніка старшыні павятовага праўлення ЗМВ у Беластоку, каб расказаў нам аб дзейнасці школ здароўя ў Беластоцкім павеце.

— У гэтым навучальным годзе на вёсцы арганізуем дзве ступені школ здароўя. Школы здароўя першай ступені — гэта форма школ, якая існавала дагэтуль. Заключаецца яна ў тым, што ўдзельнікі самі акрэсліваюць тэматыку курсаў. Пераважна тэматыка лекцыі вельмі шырокая: венерычныя хваробы, хваробы сэрца, хваробы сучаснай цывілізацыі. Можна сказаць, што кожны тут можа знайсці нешта цікавячае яго.

(Працяг на стар. 5)

## ПРА ПАМЕШЧЫКА АТУПА І ЦЯПЕРАШНІХ ГАСПАДАРОЎ

Ідзем сцежкай сярод старых дрэў, якія калісьці ўпрыгожвалі прыдворны памешчыцкі парк. Ахопліваю позіркам высокія, па-асенняму пажаўцелыя кроны гэтых дрэў і неяк міжвольна прыкідваю ў думках, колькі год ужо могуць яны тут расці: сто, дзвесце... больш? У адным я толькі ўпэўнены, што пры іх нараджэнні мяне яшчэ не было. Ведаю таксама, што яшчэ 35 гадоў таму назад мой продак або і я сам, і мой спадарожнік з жахам і хваляваннем заглыбляліся б у алейкі гэтага парка. Мы ж абодва — мужыцкія сыны, і панскія паркі былі для нас тады зачараванай казачнай краінай, якой можна было любавацца толькі крадком, здалёк. Цяпер тут вясковыя дзеці гуляюць у хованкі, а летнімі вечарамі закаханыя пары ў цішыні алеек шэпчуць сабе сардэчныя прызнанні.

Паркавая дарожка выводзіць нас да даўнейшай, тыпова шляхецкай сядзібы, якую яшчэ па сённяшні дзень называюць у Клюковічах палацам. Гэта аднапавярховы, доўгі, драўляны будынак, які сто год таму назад у супастаўленні з уросшымі ў зямлю, пакрытымі саломай сялянскімі хаткамі сапраўды мог выдавацца цудоўным палацам.



*Заатэхнік Станіслава Кавальская прыехала ў Клюковічы аж з-пад Цеханоўца.*

— Апошнім даваенным яго кватарантам быў нейкі Атуп, — расказвае Уладзімір Баранчук — старшыня праўлення клюковіцкай сельскагаспадарчай спулдзельні прадукцыйнай, актывіст БГКТ і дзеяч ПАРП.

— *Значыць, быў ён тут памешчыкам, панам? — удакладняю.*

— Які там з яго пан! — са смехам гаворыць старшыня спулдзельні. — Дзе яму да нас! Ён нават пятай часткі не меў усяго таго, што мы цяпер маем, а бацька мой расказвае, што гэты Атуп нават да мужыкоў за пазыкай хадзіў. Мала хто хацеў яму пазычаць, бо, халера, не аддаваў.

— *А што з ім сталася пасля?*

— Бог яго ведае. Як у 1939 годзе ўцёк, так і след пасля яго загінуў.

Па даўнейшым парку разнёсся трывожны, прарэзлівы крык гусей. Ён рэхам адбіўся ад старых дрэў і новай хваляй зноў уварваўся ў паветра.

— *Што гэта? — запытаў я ў свайго спадарожніка.*

— Гусі, — адказаў ён. — Звычайна — гусі, чатыры тысячы штук. Мы іх гадуем. А крычаць яны так, бо, мабыць, чуюць, што ўжо за пару дзён будзе з іх смачнае мяса, пух і пер'е.

Гляджу Валодзі ў твар. Вочы яго жартаўліва смяюцца.

— Паслухай добра, — кажа ён, — а яшчэ і курэй ты ў нас пачуеш. Прадаем мы іх у год чуць не 100 тысяч штук. Гэта таксама вельмі смачнае мяса, а булёнчык на маладой кураціне...

Акрамя таго, у нас 360 гектараў зямлі аж у трох вёсках: Клюковічы, Вычулкі і Столбцы; свінні, каровы, палявыя культуры, пастаянна штосьці будуем. За ўсім гэтым трэба пільна сачыць гаспадарскім вокам, каб не давялося нам, як гэтаму Атупу, хадзіць да сялян за пазыкай...

Старшыня дарэмна хвалюецца, а гаворыць ён так хіба толькі па скромнасці. Усе паказчыкі ў клюковіцкіх спулдзельцаў шмат вышэйшыя, чым у іх

(Працяг на стар. 5)

Пачатак на стар. 1

# Школа здароўя і гігіены

Другая ступень школы здароўя ў асноўным арганізуецца там, дзе ўжо былі школы першай ступені. Паколькі наша вёска вельмі хутка механізуецца, ЗМВ заняўся вучобай сялян у галіне бяспекі і гігіены працы. Зразумела, што тэматыка менш атракцыйная, чым, скажам, лекцыі аб венерычных хваробах, але лічым, што яна надта патрэбная. І таму школы другой ступені арганізуем перш за ўсё ў асяроддзях, якія адзначаюцца большай актыўнасцю.

У гэтым годзе арганізавана ў павеце 39 школ здароўя, з чаго школ другой ступені — пяць. Гэта вялікая колькасць. Лічымся з тым, што ў некаторых мясцовасцях па розных прычынах школы могуць перастаць дзейнічаць. Аднак хачу падкрэсліць, што ў нашым павеце ў сярэднім дзейнічала ў мінулым па 30 школ здароўя.

— *Вось іменна, як вы ацэньваеце мінулы вучэбны год?*

— Адносна ліку я ўжо выказаўся. Хачу таксама падкрэсліць, што іншых статыстычных даных не маем, таму што тут не вядуцца ніякія журналы курсаў, не робяцца спіскі ўдзельнікаў. Агульна можна сказаць, што там, дзе адбываюцца сістэматычна лекцыі, прысутных шмат. Можна было заўважыць, што моладзь перш за ўсё цікавіцца лекцыямі з галіны асабістай гігіены, венерычнымі хваробамі, а старэйшае пакаленне больш цікавіцца хваробамі сэрца і іншымі хваробамі старэйшага ўзросту.

З існаваннем такіх школ звязаны т. зв. белыя нядзелі. У вёску едзе група лекараў і студэнтаў медыцыны. На месцы ў вёсцы робяць яны лекарскі агляд усяго насельніцтва. Напрыклад, 12 лістапада г.г. 30 чалавек медыцынскага персаналу выязджала ў Ялоўку і Падазераны.

— *Сярод такой колькасці школ напэўна ёсць больш і менш актыўныя?*

— Зразумела. Мне хацелася б вельмі добра выказацца аб школе здароўя ў Сякерках. Тут моладзь вельмі актыўная. Удзельнікі супрацоўнічаюць з выкладчыкам, часта самі прапануюць тэматыку лекцый. Самі стараюцца знайсці патрэбную літаратуру або нават атрымаць у Беластоку фільмы, тэматычна звязаныя з заняткамі ў школе.

Хочацца асабліва цёпла сказаць пра такіх актывістак як Тэрэса Яронька з Сякерак, Антаніна Лазэўская з Студзянак ці Зофія Маркоўская з Абрубнік. Неабходна тут прывесці прозвішчы такіх лекараў, як др Яблонскі і др Зарэмбскі, якія самаахвярна грамадска працуюць на ніве шырэння санітарнай асветы на вёсцы.

На жаль, мы надалей адчуваем недахоп кадраў. Зачаста, па-мойму, лекары вясковых цэнтраў здароўя адмаўляюцца ад дапамогі ў вядзенні школ здароўя, хаця маюць часта самаходы і, што найважнейшае, найлепш знаюць асяроддзе.

— *А якая будучыня школ?*

— Перш за ўсё хочам іх зрабіць больш цікавымі. Хочам даць больш фільмаў, дыяфільмаў і іншых гэтага тыпу дапаможнікаў. Хочам і выступаем за тое, каб да ўмоў і патрэб нашых школ дапасаваць радыё і тэлевізійныя перадачы. У будучыні мы намераны пашырыць колькасць школ і тэматыку адносна БГП (бяспекі і гігіены працы).

*Размаўляў А. Карпюк*

(Працяг са стар. 1)

# ПРА ПАМЕШЧЫКА АТУПА І ЦЯПЕРАШНІХ ГАСПАДАРОЎ

суседзяў-аднаасобнікаў. Гадавыя надоі малака — 3100 літраў ад каровы, а ўраджай збожжа такі, што і верыць не хочацца. Ячменю «дамазы» — звыш 42 цэнтнеры з аднаго гектара, пшаніцы «эрас» — звыш 30 цэнтнераў, жыта і аўса — па 25 цэнтнераў.

— Цудаў ніякіх мы ў сябе не робім, — сцвярджае старшыня. — Стараемся толькі прымяняць на практыцы ўсе ўказанні сельскагаспадарчай навукі. Тут рашаючы голас маюць заатэхнікі Станіслава Кавальская і яе муж-агрангом, які ў нас з'яўляецца кіраўніком прадукцыі.

За вокнамі кабінета старшыні ў хуткім тэмпе растуць сцены нейкага будынку.

— *Што гэта будзе?*

— Сталовая, святліца, чатыры кватэры, гасцінны пакойчык і бюро спулдзельні.

— *Значыць, назаўсёды ўжо пакідаеце Атупаў палац?*

— Мы яго грунтоўна адрамантуем і часткова прызначым на жылыя кватэры, а часткова на асветна-культурныя мэты. Моладзь гэтага патрабуе, бо яна хоча пагуляць.

— *А дух Атупа вас не палохае?*

— Мы ж не з таго пакалення, што баялася паноў.

*Віктар Рудчык*
*фота аўтара*

(Працяг са стар. 1)

# На радзіме ЯКУБА КОЛАСА

Пасля агляду музея Якуба Коласа і пакупаўшыся ў Нёмане, едзем у славутую Альбуць, якой столькі цеплыні, столькі сэрца адпускае Колас у паэме. Альбуць — сапраўды цудоўная мясціна: навокал лес, недалёка хаты лужок зялёны, які абступае чарада дубоў-асілкаў, працякае журботная крынічка. У кожнага з нас прыўзняты настрой... Ходзім, усё вокал аглядаем. Ходзім па тутэйшых сцежках-дарожках, так і здаецца, што зараз жа напрэцца на нас «шалаўлівы» і штукар на ўсе рукі Уладзік, або прымчыцца станоўчы Алесь, і то напэўна з «начаткамі» пад пахай, або пакажацца заўсёды ціхі задумёны Костусь. Але мы іх не ўбачылі, і аж не верыцца, што тыя, хто ў паэме з'яўляецца ўвасабленнем маладосці, радасці і жыцця — ужо адыйшлі ад нас назаўсёды.

Час ляціць няўмольна. Няўмольна набліжаецца таксама канец нашай кароткай экскурсіі на радзіму Якуба Коласа. Бывай, Мікалаеўшчына, бывайце добрыя людзі!

*В. Сакоўскі*

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*Сямейная*

Andante

За га-ро-ю да й за лу-гам, — за га-ро-ю да й за лу-гам, а там Я-сё га-рэ плу-гам, а там Я-сё га-рэ плу-гам

*За гарою да й за лугам,*
*За гарою да й за лугам,*
*А там Ясё гарэ плугам.*
*А там Ясё гарэ плугам.*
*Панясу я яму есці,*
*Панясу я яму есці —*
*Чы ні скажа ён мне сесці?*
*Чы ні скажа ён мне сесці?*
*Панясу я яму піці,*
*Панясу я яму піці —*
*Чы ні будзя гаварыці?*
*Чы ні будзя гаварыці?*

*Ён наеўса, ён напіўса.*
*Ён наеўса, ён напіўса.*
**І на ралю паваліўса.**
**І на ралю паваліўса.**
*— Уставай, Ясю, чом ні гарэш?*
*Уставай, Ясю, чом ні гарэш?*
*Чом да міне ні гаворыш?*
*Чом да міне ні гаворыш?*
*— А я ляжу ды й думаю,*
*А я ляжу ды й думаю,*
*Што нілюбу жонку маю,*
*Што нілюбу жонку маю.*

Ад Ніны Шупіцы, 1926 г. нараджэння, вёска Кнышэвічы, грамадская рада Бабікі, пав. Саколка, запісаў 7 чэрвеня 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард **Гойлік**.

# САБАКА — ПРЫЯЦЕЛЬ ЧАЛАВЕКА

Сабака — найбольш разумная хатняя жывёліна. Сабака — прыяцель чалавека. Хто меў або мае сабаку, дакладна ведае, як ён сардэчна спатыкае жыхароў дома, якія вяртаюцца дадому, як ён любіць спадарожнічаць ім на полі, у дарозе і як ён становіцца ў абарону гаспадара, калі хто-небудзь нават жартам наткнецца на яго. Сабакі сцерагуць дом, яны знаюць сваіх кароў, а нават сваіх курэй. Вельмі дапамагаюць сабакі пастухам.

Але ёсць сабакі вучоныя, дрэсіраваныя, якія выконваюць нават даволі складаныя заданні. Усе мы добра помнім Шарыка з кінафільма «Чатыры танкісты і сабака», які стаў неадлучным членам экіпажа. А вось яшчэ іншыя факты. На працягу васьмі гадоў (1958—65) дрэсіраваныя міліцыйныя сабакі выкрылі ў Польшчы віноўнікаў 78 забойстваў, 419 нападаў, 3424 уламанняў і 6449 пакражаў. Дзякуючы міліцыйным сабакам атрымана ўкрадзеная маёмасць вартасцю больш як на 38 мільёнаў зл.

У розных краінах свету ўстаноўлены нават помнікі заслужаным для людзей сабакам. У Парыжы пастаўлены помнік сабаку, які выратаваў у часе снежных заносаў у Альпах 41 чалавека. У Берліне пастаўлен помнік сабаку-праваднiку сляпых, а ў Номе на Алясцы — Балту — важаку запражкі, на якой у часе эпідэміі ў занесены снегам пасёлак была дастаўлена супрацьдыфтэрыйная сываратка, а ў Калтышах пад Ленінградам — сабаку, які служыць навуцы, у горадзе Асака (Японія) — запражцы ездавых сабак, пакінутых для абслугі экспедыцыі падчас зімоўкі ў Антарктыдзе. У Борга Сан Ларэнца (Італія) пастаўлен помнік сабаку Вернаму, які трыццаць гадоў кожны вечар хадзіў на аўтобусны прыпынак сустракаць свайго гаспадара, які загінуў на вайне. У арміі Напалеона быў слаўны сабака, які прымаў удзел у баях пад Аўстэрліц і Марэнга. За заслугі ў часе баёў ён некалькі разоў быў адзначаны медалямі. Яму таксама прызналі генеральскі харчавы паёк. Загінуў ён падчас баёў за Бадаёз.

Сабакі эскімосаў выкарыстоўваюцца да язды. Запражка, зложаная з 12 сабак, можа пацягнуць цяжар да 1000 кг з хуткасцю язды, даходзячай часам да 25 км у гадзіну. У сярэднім хуткасць саняў сабачай запражкі складае 9—11 км. Сабакі эскімосаў моцныя і вынослівыя. Зносяць добра маразы, даходзячыя да 40 градусаў.

У апошнія гады рэкорд папулярнасці пабіла Лайка. У 1957 годзе стала яна першай жывой істотай, якая многа разоў акружыла зямлю. Лайка не вярнулася на зямлю. Адкрыла яна аднак новы вялікі раздзел у развіцці астранаўтыкі.

Сабак многа ў горадзе і на вёсцы. Многія людзі без сабак не могуць жыць. Яны любяць сабак.

На здымку Іван Пацэвіч з Новага Вострава (Сакольскі павет) са сваім сабакам Жулікам. Жулік даволі разумны. Памагае пасвіць кароў падчас чаргі. Яму дастаткова паказаць, якія адкуль каровы ён павінен прыгнаць, — ён гэта зробіць. Ён увесь дабытак свой знае. Нават свайго ката не палохае, у той час, калі чужога зусім не зносіць.

*М. Хмялеўскі*

навана многа мерапрыемстваў. Вельмі плённа развіваецца супрацоўніцтва паміж аддзелам і Домам савецкай культуры ў Варшаве. Савецкія таварышы дапамагаюць аддзелу літаратурай і фотавыстаўкамі з жыцця БССР і СССР, запрашаюць на спатканні з грамадскімі дзеячамі, пісьменнікамі і артыстамі, прыбываючымі ў Польшчу з СССР, прадастаўляюць залу Дома культуры для правядзення мерапрыемстваў БГКТ. Аддзел арганізаваў сустрэчу прадстаўнікоў Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку са студэнтамі з Беласточчыны, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах Варшавы. Студэнцкая моладзь была праінфармавана аб перспектывах развіцця Беласточчыны і магчымасцях атрымання працы пасля заканчэння вучобы ў нашым ваяводстве. Спатканне было вельмі карыснае, хоць студэнты крытычна аднесліся да таго, што стыпендыі, якія прапануюць студэнтам установы і прадпрыемствы Беласточчыны, значна ніжэйшыя ад тых, якія прадстаўляюць іншыя рэгіёны краіны. Група студэнтаў, што дзейнічае пры аддзеле, рэгулярна кожны год выязджае на Беласточчыну для збору фальклору. Цяпер аддзел звярнуўся да радыёзавода імя Каспшака з просьбай падарыць гэтай групе некалькі магнетафонаў, што значна аблегчыла б працу фалькларыстам. Памяшканне варшаўскага аддзела патрабуе рамонту і лепшага абсталявання. Пра гэта ГП БГКТ павінна як мага хутчэй паклапаціцца.

# Удзячнасць

(ВЫСТУПЛЕННЕ ВАСІЛЯ ДЗУНА — АКТЫВІСТА АДДЗЕЛА БГКТ У ГАЙНАЎЦЫ).

Старэйшы член нашай арганізацыі, настаўнік-пенсіянер В. Дзун у сваім выступленні выказаў сардэчную ўдзячнасць Польскай аб'яднанай рабочай партыі і народнаму ўраду ПНР за стварэнне прыхільных умоў для развіцця нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры беларускай нацыянальнай меншасці.

Ён падкрэсліў, што адразу пасля ўстанаўлення народнай улады ў краіне беларуская моладзь атрымала неабмежаваныя магчымасці адукацыі і працы паводле сваіх зацікаўленняў. Многія з іх бацькоў і старэйшых братоў аддалі сваё жыццё ў змаганні за народную ўладу. І маладое пакаленне вельмі выразна гэта сабе ўсведамляла. Яно вучылася, дзейнічала ў маладзёжных арганізацыях, каб сёння стаць актыўнымі будаўнікамі сацыялізму. Яны працуюць на розных пастах, у тым ліку і выхавацелямі новага маладога пакалення грамадзян нашай Айчыны. Гэта натуральны працэс і ён усіх нас радуе.

Затым В. Дзун падтрымаў выказванні сваіх папярэднікаў аб неабходнасці як мага хутчэйшага пераводу Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы ў адпаведны будынак і забеспячэння сабраных экспанатаў неабходным абсталяваннем і абслугай для належнага іх захавання і экспазіцыі.

*Фота Цаф — П. Савіцкі*

# ВЯЛІКІ КОНКУРС




## УКРАІНСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Яе плошча — каля 604 тысяч квадратных кіламетраў — па тэрыторыі большая за любую еўрапейскую краіну.

Украінская ССР утворана 25 снежня 1917 г, увайшла ў Саюз ССР 30 снежня 1922 г. У сталіцы УССР — горадзе Кіеве — жыве звыш 1,5 мільёна жыхароў.

Паверхня Украіны ў асноўным раўнінная, толькі на захадзе рэспублікі ўзвышаюцца Украінскія Карпаты (найвышэйшая вяршыня Гаверла — 2061 м) і на поўдні, уздоўж паўднёвага берагу Крымскага паўвострава, праціраюцца Крымскія горы (самая высокая іх вяршыня Раман-Кош — 1545 м). Клімат умераны кантынентальны, а на паўднёвым беразе Крыма — субтрапічны. На тэрыторыі Украіны ў лесастэпавай і стэпавай паласе знаходзіцца вялікі масіў чарназёму, які займае амаль палавіну ўсёй паверхні рэспублікі. Палажэнне Украінскай ССР над узбярэжжам Чорнага і Азоўскага мораў спрыяе буйнаму развіццю марскога транспарту і партовай гаспадаркі, рыбалоўства і курортаў.

Нетры ўкраінскай зямлі багаты карыснымі выкапнямі. Галоўныя раёны месцазнаходжання і здабычы каменнага вугалю — гэта Данбас, Львоўска-Валынскі і Прыдняпроўскі басейны. Нафта і газ у значнай колькасці знаходзяцца і здабываюцца ў Івана-Франкаўскай, Львоўскай, Чарнігаўскай, Сумскай і Палтаўскай вобласцях. У межах Украінскай ССР знаходзяцца адны з найбольш багатых месцазнаходжанняў жалезнай руды (Крыварожскі, Крэменчугскі, Керчанскі басейны і Белазерскае радовішча). Марганцавыя руды залягаюць у ваколіцах Нікапаля і Вялікага Такмака. Багатая паліўная база рэспублікі і водная энергія яе рэк скарыстана для магутнага развіцця электраэнергетыкі. На рацэ Дняпры пабудаваны цэлы каскад гідраэлектрастанцый (Дняпроўская, Крэменчугская, Днепрадзяржынская, Кахоўская), іншыя яшчэ будуюцца.

У 1971 годзе ў Украінскай ССР здабыта 209 мільёнаў тон вугалю, 117 мільёнаў тон жалезнай руды, каля 65 мільярдаў кубаметраў газу, атрымана 150 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі, 47,4 мільёна тон сталі, 149 тысяч трактараў, амаль 497 мільёнаў квадратных метраў тканін. У 1971 г. валавы збор збожжа дасягнуў на Украіне 39,4 мільёна тон.

Машынабудаванне — гэта адно з вядучых галін прамысловасці Украінскай ССР, у ёй працуе 32 прац. рабочых рэспублікі. Развіта вытворчасць горназдабываючага, металургічнага, энергетычнага і хімічнага абсталявання, сродкаў транспарту (лакаматываў, вагонаў, марскіх і рачных суднаў, аўтамабіляў), трактараў, сельскагаспадарчых машын, будаўнічых і дарожных машын, металарэжучых станкоў, дакладнага машынабудавання, сродкаў аўтаматызацыі і радыёэлектронікі.

Украіна займае адно з першых месц у Саюзе ССР па вытворчасці шэрагу важнейшых сельскагаспадарчых прадуктаў: мяса, малака, цукру, садавіны, гародніны, збожжа. Валавы збор збожжа ў 1975 г. павінен дасягнуць у рэспубліцы 43 мільёнаў тон.

Няспынна ўзрастае дабрабыт жыхароў гарадоў і вёсак. У 1965—1970 гадах рэальныя даходы насельніцтва рэспублікі павялічыліся на 32 прац., у гэтым жа часе больш чым 9 мільёнаў чалавек (амаль кожны жыхар Украіны) атрымалі новыя кватэры або палепшылі свае жыллёвыя ўмовы.

У Украінскай ССР завяршаецца пераход да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі, цяпер у ёй працуе 29,3 тысяч агульнаадукацыйных школ усіх відаў і 755 сярэдніх спецыяльных вучэбных установ. У 139 вышэйшых навучальных установах вучыцца 803 тысячы студэнтаў.

На Украіне выходзіць 2537 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў. У рэспубліцы вялікая колькасць культурна-асветных установ: тэатраў, кіно, палацаў культуры і г.д. Сярод 61 тэатра Украіны вядучае месца займаюць Акадэмічны тэатр оперы і балету імя Тараса Шаўчэнкі і Акадэмічны ўкраінскі драматычны тэатр імя Івана Франко. (мг)

## УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ Ў МОРЫ

Вялікай падзеяй у вёсцы Мора Гайнаўскага павету было святкаванне 55-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка. З гэтай нагоды ў мясцовай школе адбылася ўрачыстая акадэмія, у якой прымала ўдзел 210 асоб. У афіцыйнай частцы быў даклад і выступленне ўдзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі Сяргея Дружбы, які падзяліўся з прысутнымі сваімі ўспамінамі з дарэвалюцыйнага перыяду і расказаў аб асабістым удзеле ў рэвалюцыі. Затым адбылася мастацкая частка, якую падрыхтавалі гарцэры і зухі. Яны дэкламавалі вершы, спявалі песні, паказвалі скетчы і п'есу Ю. Геніуша «Зямля». Усе глядзелі яе з асаблівым зацікаўленнем і кожны яе нумар быў узнагароджаны бурнымі воплескамі.

На заканчэнне ўрачыстасці адбылася школьная забава.

(ця)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ПАЧЫНАЕМ РЫХТАВАЦЦА ДА СВЯТ

Трэба памятаць аб адным: ніколі нельга адкладаць некалькі цяжкіх прац на апошні дзень. Добрая гаспадыня рыхтуецца да свят прынамсі тыдзень. І менавіта тады свята будзе святам і для яе, бо, рыхтуючыся да свята штурмам, змучылася б яна так, што пры святочным стале магла б толькі спаць, і не ў галаве былі б ёй ані пачастункі, ані цікавыя размовы, ані забава. Таму раім рабіць усё паступова, а нават і закупы, каб не цягаць пасля, як вярблюд, перапоўненых сетак.

Мяса, якое збіраемся спячы ў духоўцы, раней на які тыдзень або прынамсі пяць дзён трэба замарынаваць, гэта значыць: кавалак свініны ці цяляціны пасаліць, пасыпаць перцам, кменам, тоўчаным лаўровым лістком, нацерці часнаком і загарнуць у змочаную ў воцаце чыстую сцірачку. Перад тым, як мяса будзем пячы, трэба будзе яго крыху спаласнуць. Устаўляць адразу ў гарачую духоўку. Гатова яно, як стане румяным і не будзе цячы з яго ружовы сок, калі мы праколем яго запалкай. Некаторыя любяць цяляціну нашпікаваць яшчэ саланінай. Нельга забывацца аб тым, што мяса ў часе смажэння трэба часта паліваць соусам, які ўтварыўся на бляшцы.

Трэба купіць раней вяндліну. Усялякую кілбасу (за выключэннем сэрдэлёвай, сасісак і мартадэлі) перахоўваць найлепш нават не ў лядоўцы, а ў нейкім халодным месцы, дзе кілбасу можна павесіць. Шынку або паляндвіцу лепш, зразумела, трымаць у лядоўцы, загорнутыя ў пергаментную паперу, а не ў нейлонавы мяшочак.

Што трэба памятаць аб падрыхтоўцы пірагоў? Усе прадукты, якія будуць нам патрэбны для дрожджавага цеста (мука, яечкі, малако, тлушч), павінны быць раней нагрэтыя. Распускаем дрожджы ў цёплым, але не ў гарачым малацэ. Тлушч дадаем у канцы мяшэння цеста, і трэба памятаць, каб не быў ён занадта гарачы. Дрожджавае цеста перад тым, як накладаем яго ў формы, павінна падвоіць сваю велічыню. У форму накладаем цеста толькі да адной трэцяй вышыні формы. Пячом яго 45 мінут у духоўцы сярэдняй гарачыні. Калі пірагі робіцца вельмі хутка румяныя, трэба прыкрыць формы сухой, зложанай у два разы пергаментнай паперай. Пірагі перад тым, як выняць іх з духоўкі, правяраем драўлянай палачкай. Калі палачка будзе сухая, значыць цеста можна вымаць з духоўкі.

Нашыя гаспадыні вельмі любяць да розных дрожджавых пірагоў і сырнікаў дадаваць апельсінную скурку. Яе варта падрыхтаваць на некалькі дзён раней. Спачатку мочым яе дні два ў халоднай вадзе, пастаянна змяняючы ваду. Пасля варым у вадзе, пакуль не будзе яна зусім мяккая, кроім на палосачкі, кладзем яе ў не вельмі густы сіроп (на 2 шклянкі цукру 1 шклянка вады), смажым каля паўгадзіны. Дадаючы да цеста, трэба дакладна скурку абсушыць і можна нарэзаць яшчэ драбней.

*Гаспадыня*



*Украінскі танец «Гапак» з оперы С. Гулака — Артэмоўскага «Запарожац за Дунаем».*




У кнігарні ў Саколцы, вул. Гродзенская 5, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Лобан М. П., Суднік М. Р., Арфаграфічны слоўнік, 1971, стар. 304, цана 3 зл. 60 гр.

У слоўніку змешчана каля 15 тысяч слоў і звод правіл па арфаграфіі і пунктуацыі беларускай мовы.

Дасканалы дапаможнік для вучняў старэйшых класаў пачатковых школаў і для ліцэістаў. Адпаведная яго колькасць павінна знаходзіцца ў школе для ўжытку вучняў у класах-кабінетах беларускай мовы.

Вачамі дзяцей, 1968, стар. 248, цана 6 зл. 70 гр.

Зборнік склала Л. Ф. Тамашова. У яго ўвайшлі літаратурныя творы і творы жывапісу беларускіх школьнікаў.

Вельмі карысны дапаможнік для настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школаў. Творы, змешчаныя ў зборніку, могуць служыць добрым прыкладам і ўзорам, заахвочваючым моладзь да самастойнай літаратурнай і мастацкай творчасці.

Эстафета пакаленняў, 1967, стар. 128, цана 3 зл. 10 гр.

У зборнік увайшлі творы, прысвечаныя гераічным справам беларускіх дзяцей у гады Вялікай Айчыннай вайны, і творы, у цэнтры якіх сучасны дзень, заняткі і зацікаўленні беларускіх школьнікаў.

Цікавая і вельмі карысная выхаваўчая літаратура для чытання і дыскусій на ўроках і для пазакласнага чытання.

Рэкамендуем усім настаўнікам беларускай мовы, школьным і грамадскім бібліятэкам.

Вітка Васіль, Казкі, 1968, стар. 168, цана 4 зл. 10 гр.

Зборнік вершаваных казак вядомага сучаснага беларускага пісьменніка. Багатыя каляровыя ілюстрацыі Б. І. Ермачонак.

Гэтае выданне рэкамендуем усім школьным і грамадскім бібліятэкам, а таксама як прыемны падарунак дзецям малодшых класаў.

Шыкула Вінцант, Канікулы з дзядзькам Рафаэлем, 1972, стар. 128, цана 3 зл. 10 гр.

Займальная аповесць сучаснага славацкага пісьменніка ў перакладзе на беларускую мову С. Міхальчука. Твор прысвечаны жыццю школьнай моладзі ў Славакіі. Каларытны фон складае сучасная славацкая вёска з усімі яе радасцямі і клопатамі.

«Дом кнігі» ў Саколцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем з далучэннем рахункаў. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

«Dom Książki», Sokółka, ul. Grodzieńska 5, woj. białostockie. (мг)




# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ЧАСТКА VI

Дзяржаўная ўлада, характар ураду займаюць у публіцыстыцы Каліноўскага значную пазіцыю. Праблемай гэтай займаецца Каліноўскі найбольш у чацвёртым нумары «Мужыцкай праўды» і ў «Лісце з-пад шыбеніцы». Па думцы Каліноўскага, дзяржава і ўрад павінны каардынаваць дзейнасць асветніцкіх, судовых і іншых установ такім чынам, каб вынікі іх дзейнасці былі згодныя з інтарэсамі народных мас. Не народ ураду, а ўрад народу мае служыць і садзейнічаць народным патрэбам. «Як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так і добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіць так, як народаві лепей. І не дзіво, бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу» («Мужыцкая праўда» № 4).

Зразумела, што царская сістэма не мела нічога супольнага з такім характарам дзяржаўнай улады. Каліноўскі, карыстаючыся цэлым радам пытанняў, прымушаў сучаснага чытача да самастойнага думання, да самастойнага асуджэння царскага ўраду.

«... чы ў нас е справедлівая наука ў школах, што учыць жыці без крыўды другога?... Чы е праўда і справедлівосць у судзе, чы можа чалавек быць пэўны, што яго ніхто не скрыўдзіць? Чы ронд маскоўскі думае аб людзях, каб яны маглі жыці шчасліве? Самі скажэце?» («Мужыцкая праўда», № 4).

Каліноўскі аднак не ўцякае ад адказаў на пастаўленыя ім жа пытанні. Прыводзіць факты, якія кампраметуюць існуючую сістэму. Даказвае, што сістэма гэта ўжо па сваёй натуры мае антынародны характар. Каліноўскі праводзіць аналогію паміж царскім урадам і «ліхім панам», які дазваляе ўсім здзеквацца над народам. «Ронд маскоўскі, як той ліхі пан, што пачаўшы ад камісара аж да цівуна пазваляе кожнаму народ глуміць, каб но як найбольш грошай у кішэнь яго дасталося» («Мужыцкая праўда», № 4).

Праўдападобна, паняцце, тэрмін «ронд» — урад былі мала зразумелыя тагачаснаму селяніну. Царская прапаганда імкнулася раздуць культ цара. З постаццю цара звязваліся такія паняцці, як высакароднасць, справядлівасць, беспамылковасць. Дык нічога дзіўнага, што грамадная большасць народа нічога не ведала аб існаванні ўрада, але ўсе ведалі аб постаці цара. Зрэшты, афіцыйная прапаганда, здаючы справу з недасканаласці сістэмы і з убоства народу, старалася часта ўсе недахопы, усе няшчасці і беды звязваць з нядобрасумленнымі чыноўнікамі, якія кіруючыся эгаізмам, не рэалізавалі высакародных загадаў цара. Такім чынам, цар і народ быццам бы стаялі на адным баку, а нядобрасумленныя чыноўнікі на другім. Трэба сказаць, што афіцыйная прапаганда прынамсі часткова дасягнула пастаўленых мэт. Вялікая частка народу верыла, што цар нічога не ведае аб няшчасцях народу і што нядобрасумленныя чыноўнікі ўводзяць цара ў зман.

Каліноўскі, несумненна, ведаў аб такім стане рэчаў, і таму вастрыё сваёй агітацыі накіраваў не толькі супраць урада, але і супраць цара. Каліноўскі атоесамлівае чыноўніцтва, памешчыцтва, урад і цара. Якой жа вялікай сілай і навізной вее ад яго простых і гарачых слоў: «... Глум, здзерства, несправядлівасць выходзяць ад самога цара» («Мужыцкая праўда», № 4).

Традыцыйную формулу «добры цар — дрэнныя чыноўнікі» Каліноўскі паставіў на галаве, а гаворачы дакладней, паставіў з галавы на ногі: «Для таго, як галава ў чалавека, калі задумае кепска, то ногі і рукі кепска зробяць, так у рондзе, калі цар глуму захочэ, то чыноўнікі глуму наробяць («Мужыцкая праўда», № 4).

Атакаваў Каліноўскі царскую сістэму таксама за русіфікацыю нярускіх народаў. Бараніў палякаў, літоўцаў і беларусаў ад русіфікатарскай палітыкі і дамагаўся нацыянальнай асветы.



# ТРЫБУНА чытачоў

### СУСТРЭЧА БЫЛЫХ ДЗЕЯЧОЎ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ

7 лістапада г.г. у Павятовым камітэце ПАРП у Саколцы адбылася сустрэча ветэранаў рэвалюцыйнага руху. На ёй I сакратар ПК ПАРП Генрык Кравец праінфармаваў прысутных аб асноўных праблемах партыйнай і гаспадарчай працы на Сакольшчыне ў 1972 г. Затым удзельнікі сустрэчы наведалі завод будаўнічай сталяркі. Гэта адна з важнейшых прамысловых навабудоўляў Беласточчыны. Атрымаюць у ёй працу сотні маладых людзей. Завод абсталяваны сучаснай тэхнікай. Пабудаваны датэрмінова (на 5 месяцаў раней).

Наступная сустрэча ветэранаў рэвалюцыйнага руху Сакольшчыны назначана на май 1973 г.

У.Х.

### ВЕСТКІ З КРЫВЯЦІЧ

4.XI.1972 г. моладзь сяла Крывяцічы арганізавала вельмі добрую забаву. Іграў музычны калектыў з Гайнаўкі. Прышло многа моладзі з навакольных сёл — з Мора, Старога Корніна, Збуча, Махнатага, Міклашоў, Шчытоў. З дапамогай у арганізацыйных справах прышоў крывяціцкі сельгасгурток, за што моладзь шчыра дзякуе старшыні сельгасгуртка Пятру Буды і скарбніку Валодзі Кавальчуку. Сельгасгурток часта дапамагае моладзі арганізоўваць культурную дзейнасць у Крывяцічах.

*Ваня Кірызюк*

### ПАТРЭБНЫ ВЕДЫ

На працягу трох год працаваў у Дубічах Царкоўных курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Апрача тэорыі, былі тут таксама практычныя заняткі, і курсанты дастаткова прысвоілі патрэбныя веды.

5 лістапада г.г. адбыліся экзамены ў дубіцкім ПР. Іх паспяхова здалі ўсе ўдзельнікі вучобы — 15 маладых гаспадароў.

*М. Панфілюк*

*У грамадзе Ляўкова*

### ТЭЛЕФОН У АХРЫМАХ

У пачатку кастрычніка г.г. быў падключаны тэлефон у вёсцы Ахрымы Гайнаўскага павету. Цяпер тэлефонам карыстаюцца многія жыхары гэтай вёскі, якім зараз не трэба хадзіць або ездзіць за некалькі кіламетраў на пошту ў Старое Ляўкова.

Варта адзначыць, што пры пабудове тэлефоннай лініі шмат працавалі грамадска жыхары не толькі Ахрымаў, але і бліжэйшых суседніх вёсак.

### КІЁСК ДЛЯ КЕРАМІКАЎ

Кіёск са спажывецкімі таварамі адкрыў нараўкаўскі ГС пры керамічнай фабрыцы ў Старым Ляўкове. Кіёск быў вельмі патрэбны ўсім рабочым гэтай фабрыкі. Пабудавалі яны яго грамадскім чынам. (ця)

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Мой бацька аддаў у наймы 2 пакоі з кухняй. Гэта было ў 1947 годзе. Пасля смерці бацькі ў 1960 г. наймальнік не плаціў арэнднай платы яго наследнікам, якія платы гэтай не патрабавалі, бо яна была малая. У 1971 годзе арандатар выступіў у суд, каб сцвердзіць, што ён набыў уласнасць дома з-за даўнасці. Суд не паведаміў нам аб справе і прызнаў арандатару ўласнасць. Рашэнне суда правамоцнае. Ці могуць наследнікі майго бацькі патрабаваць адмены гэтай пастановы?

АДКАЗ: Пакуль арандатар карыстаўся з дома на аснове ўмовы арэнды, тэрмін даўнасці не лічыўся. Арандатар не мог набыць уласнасці праз даўнасць, нават калі б арэнда працягвалася звыш 20 год.

Паколькі пасля смерці бацькі яго наследнікі не звярталіся да арандатара, каб аднавіць або прадоўжыць умову, арандатар мог быць пераканаsuccessor, што ён карыстаецца з дома як уласнік і ад гэтага часу мог лічыцца час даўнасці. Зразумела, што ад 1960 года арандатар не мог набыць уласнасці з-за даўнасці, бо на гэта патрэбна 20 год. Таму рашэнне суда, якім арандатару прызнана права ўласнасці, няправільнае. Арандатар, праўдападобна, скрыў перад судом, што ён заключыў з бацькам умову арэнды, і тое, што бацька пакінуў наследнікаў.

Паколькі суд не паведаміў вам аб справе, вы можаце патрабаваць аднаўлення судаявдзення.

### КАЛІ ЗАЦІКАВЯЦЦА?

Некалькі месяцаў існуе ў Грэдалях клуб «Руху». Чакалі мы яго доўга і нарэшце маем. Але каб усё было добра, дык трэба яшчэ шмат зрабіць у ім: уставіць двайныя вокны і рамы, зрабіць ганак, у сярэдзіне пакрыць сцены і столь фарбай і кастрыцавай плітамі, памаляваць, перарабіць печы (іх дзве, але толькі займаюць месца, бо ніводна не грэе). У грамадскай рады нарадовай у Грыгароўцах столькі работы, што не мае яна часу пацікавіцца нашым будынкам. А гэта адзіны клуб у нашай грамадзе. Звярталіся мы ўжо ў гэтай справе некалькі разоў. Дарэмна. Надыходзіць зіма. Хто высядзіць у гэтым будынку? Ды і тавар можа сапсавацца. А ў нас жа ёсць і радыёпрыёмнік, тэлевізар, праігрывацель, узмацняльнік. Усё гэта каштуе нямала. Аддзел «Руху» ў Бельску заявіў: калі ўмовы не папраявіцца, дык вымушаны будзе ён усё забраць. І зноў застанемся голыя. Тапіць таксама няма чым. Ды нават каб і было чым, дык няма яго дзе трымаць. Гэтым усім павінна цікавіцца рада. Мо гэта публікацыя паможа, і яна ўрэшце зацікавіцца намі?

*Кампетэнтны*

## НяСлаўная хроніка

12.XI.72 г. у Трасцянцы Гайнаўскага павету на неасветленай вуліцы пад фурманку Мікалая Банілюка (54) з Соцаў папала мясцовая жыхарка Вера Максімюк (69 год). Яе палажылі ў шпіталь.




Дарагое «Сэрцайка!»

Бацькі мае жывуць і працуюць на гаспадарцы. Я ў мінулым годзе закончыла тэхнікум і працую ў горадзе. Маю хлопца — Славак ён завецца. Разумны, прыстойны, вельмі мне падабаецца. Я яго кахаю і ведаю, што наша каханне ўзаемнае. Перад войскам ён таксама ў горадзе працаваў, бо ён тэхнік. Калі ён адыходзіў у войска, мы паабяцалі чакаць адно другога, а як толькі Славак вернецца з войска, мы пажэнімся. Але адночы ў суботу прыехаў да мяне ў сваты хлапец з суседняй вёскі. Не спадзявалася я гэтага. Бачыла яго няраз на забаве ў нашай вёсцы, але зусім не звяртала на яго ўвагі. Шмат ён старэйшы за мяне і ўвогуле не падабаецца мне. Маці мне сказала, што ён быў у нашай хаце, пытаўся, ці можна ў сваты прыехаць. Бацькі згадзіліся, у мяне аб гэтым не пытаючы. Кажуць: багаты ён, інжынер, на высокай пасадзе. Мае кватэру, мэблю. Я не хачу нават слухаць аб гэтым. На што мне яго багацце? Ці ж магу я пакінуць для яго маладога, прыстойнага, каханага хлопца і паслухаць бацькоў, выйсці за гэтага? Ці ж у жыцці найважнейшае гэта добрая пасада мужа і яго багацце? Я сказала, што не выйду за яго. Бацькі злуюцца на мяне. Але ўсё гэта яшчэ не так дрэнна. Найгоршае, мой хлапец аб гэтым даведаўся. Як толькі прыехаў ён у вёску, зараз далажылі яму аб сватах у мяне, ды й яшчэ дадалі, што я за яго замуж выходжу. Славак хутка паехаў назад, а ў хату нашу нават не зайшоў. Што я маю цяпер рабіць? Баюся, каб не страціць Слаўка. Парай, «Сэрцайка».

*Эля з Бельшчыны*

Эля! Прыкрая выйшла справа. Але не падай духам! На жаль, здараюцца яшчэ выпадкі, хоць ужо даволі рэдкія, што бацькі выбіраюць дачцы мужа без яе згоды. Як гаворыць народная прымаўка, «Без меня меня женили — я на мельнице был». Хвалю цябе, што справу ставіш цвёрда! З бацькамі раю пагаварыць, выясніць ім, што багацце не найважнейшая справа. Вашае ж багацце залежыць ад вас. Бацькі зразумеюць цябе — яны ж сваёй дзіцяці дрэннага не жадаюць. А іх паступак сведчыць аб іх несвядомасці. Слаўку раю напісаць пісьмо і ўсё выясніць. Шкада толькі, што адразу не прыйшоў да цябе, а паслухаў людскіх языкоў.

Жадаю ўсяго добрага!

*«Сэрцайка»*

### УРАЧЫСТЫ ВЕЧАР У КЛУБЕ БГКТ

У суботні вечар 11 лістапада 1972 года ў клубе БГКТ адбылася акадэмія, прысвечаная Кастрычніцкай рэвалюцыі. На гэту ўрачыстасць прыйшло многа моладзі і старэйшых. Зала клуба была перапоўнена.

Урачыстасць складалася з дзвюх частак. У афіцыяльнай частцы выступіла інструктар БГКТ Зося Стаськевіч з дакладам, прысвечаным Кастрычніцкай рэвалюцыі. Трэба сказаць, што даклад быў цікавы, і ўсе слухалі яго з прыемнасцю.

У мастацкай частцы выступіла Вера Кандрацюк, якая была канферансье. Зіна Нікалаюк і Геня Грыгарук заспявалі многа беларускіх песень. Выступалі таксама вучаніцы з VI агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку. На заканчэнне выступіў дзіцячы калектыў акардэаністаў, які існуе пры клубе БГКТ пад кіраўніцтвам В. Дзюбінскага. Калектыў акардэаністаў вельмі прыгожа выконваў мелодыі, а ў перапынку паміж выступленнем акардэаністаў з гумарам выступіла Вера Кандрацюк. (ті)




*Прысвячаю Зосі Стаськевіч*

### ЧАР МОРА

Цябе зачаравала мора ўдзень.
У косах сонца жмурыліся хвалі.
Але няхай на бераг ляжа ночы цень,
А месяц выгляне з заморскай шэрай далі,
Тады і мора укладаецца да сну.
Дзікія качкі плёснуцца ў хвалі.
Прабудзь над морам ночку хоць адну,
Цярпліва заглядаючыся ў далі.
Не ўбачыш там нат мачтаў параходаў,
Ані баркасаў, што плывуць на начны лоў,
Але пачуеш працу сэрцаў іх — маторaў,
А ў далі пас рухлівых аганькоў.
У змроку не шукай янтару.
Яго пакрые мора мглісты цень —
Прыдзі, як неба скрыюць плыты-хмары,
Па шторме ты прыдзі на другі дзень.
Будуць яшчэ скакаць, бурліцца хвалі
І не з паклонам падбягуць да ног,
Бо ў глыбіні Нептун спраўляе гулі-балі
І ўсцяж злуецца, што зямлі не перамог.
У белай пене будзе цэлы бераг,
Смецця ды вадаростаў звалы,
А хвалі будуць бегчы ўсцяж наперад,
Як бы ў пяску чагось шукалі.
Калі ж на ножкі хваля набяжыць
І будзе іх па-свойму цалаваць,
Не бараніся, з морам трэба падружыць,
Каб чар яго стыхіі лепш пазнаць.

*Мікола Базылюк*
*Штутова*

*

Яна косы свае распусціла,
Яна вочы свае напаіла
Льном валакністым і залацістым,
Кветкамі сінімі, мілымі, ціхімі.

Кветачкі мілы ў косы ўплятала,
Кветачкі сіні ў вочы ўсыпала.
Рукі, як струны, свае раскладала
І ціхенькі кветкі так спрытненька рвала.

Вяночак пляла і песні спявала.
Спляла і хутка галоўку ўбрала.
У слёзах вочы свае растапіла
І хуценька, хутка зноў кветачкі рвала.

Рвала і ў рэчку паціхеньку клала,
А ўперш цалавала і прытуляла,
Кусочкі душы сваёй дашывала
І вочы за кветкамі сваімі пасылала.

Ў канцы вяночак з галоўкі сарвала
І ў сонную рэчку з жалем ўпускала.
І вочы плылі за вяночкам, як веткі,
Як мілыя, ціхія, сінія кветкі.

Дзе гэты кветкі?
Хто іх лавіў?
Можа у мора ўплылі паціхеньку,
А можа ён іх бяздушна грабіў?...

*Ліля Грыгарук*
*Бельск*




*Ян Анацік, бельскі ліцэй.* «Зіму» надрукуем у «Парнасіку».

*Анатоль Власюк, Маскеўцы.* «Одпуст» страшна доўгі. Не ведаем, ці ўдасца нам яго добра скараціць, каб ён змясціўся ў «Парнасіку».

*Ірэна Васілюк, Бельск.* «Восень» змесцім у «Парнасіку».

*Міхась Красоўскі, Малынка.* «Лёс», хоць і недарэчны, але нам спадабаўся. Зрэшты, для вас у «Парнасіку» месца заўсёды гарантаванае. Толькі б яшчэ навучыліся карацей пісаць! Прывітанні.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Miałem 19 lat" (NRD), 5—6. „24 godziny z życia kobiety" (franc.), 7—8. „Przygody psa Cywila" (polski), 9—10.

**Нараўка**
„Tylko jeden telefon" (węgierski), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 6—10.

**Нарва**
„Akcja „Brutus" (polski), „Narkotyk" (franc.), 6—10.

**Чыжы**
„Zbrodnia i kara" (radz.), „Jutro na orbitę" (radz.), 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**
„Rycerz szklanego ekranu" (węgierski), „Horyzont" (węgierski), 6—10.

**Арэшкава**
„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 9—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Nie można żyć we troje" (angl.), „Prawdzie w oczy" (polski), 6—10.

**Орля**
„Orzeł w klatce" (jugosł.), „Oczami przyjaciół" (polski), 6—10.

**Райск**
„Podróż za jeden uśmiech" (polski), „Jestem niewiernym mężem" (franc.), 6—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Królewski błąd" (czeski), 5—6. „Kochany drapieżnik" (radz.), 7—8. „Agent Nr 1" (polski), 9—10.

**Шудзялава**
„Kupujemy wóz strażacki" (NRD), „Orzeł w klatce" (jugosł), 6—10.

**Янаў**
„Zdradzieckie gry miłosne" (czeski), 6—10.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Koledzy" (radz.), 5—6. „Dawid Copperfield" (angl.), 7—8. „Jaskółka" (węgierski), 9—10.

**Мельнік**
„Czekam w Monte Carlo" (polski), 5—6. „Zaproszona" (franc.), 7—8. „Agent Nr 1" (polski), 9—10.

**Мілейчыцы**
„Zosia" (radz.), 5—6. „Czarownica z bagien" (radz.), 7—8. „Zaraza" (polski), 9—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Polonez Ogińskiego" (polski), „Krzyżacy" (polski), 6—10.

**Новы Двор**
„Cytadela odpowie" (bułg.), „Przeciw Wranglowi" (radz.), 6—10.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPIK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.811 T-3

